


№ 2. ЧЭРВЕНЬ 1937 г.



## ПАСТУШОК.

Прабіла час хлапчыне
гнаць у поле са двара.
Ен праслухаў навучанку,
як быць добрым пастухом,
справіў пугу—павіванку,
вузлы вывязаў гурком
і пагнаў авечкі ў поле
на папары і на ролі.
Добра ў полі: волі многа
і прастору—шырыні.
Вабяць далі там малога,
як прынадныя агні.
Што ёсьць там, за тым, унь, гаем,
дзе зьляглі нябёс вянцы?
Новы край і край за краем
і краі ва ўсе канцы!
І снуецца думка тая,
каб пашырыць свой прастор...
Думка ўсюды залятае:
за сяло, за хвалі гор.
І на хмаркі кіне вока,
што, як гусанькі, плылі, —
запытае, як далёка
тое сонца ад зямлі?
Як глыбок той прастор немы,
і ці мерыў яго хто?
І адкажа пасваему:
вёрст напэўна будзе сто!

**Зъ поэмы „Сымонъ музыка“ Якуба Коласа.**



# СЁМУХА.

Вёска Запольле асабліва ўрачыста абходзіць гэтае сьвята, бо храм яе пасьвечаны ў Імя Сьвятога Духа.

Яшчэ з вечара ў суботу дзеці прынясьлі да кожнай хаты зялёных расьлін, падмялі падворкі і вуліцу, пасыпалі сьцежкі жоўтым пяском, накідалі аеру. Зялёныя бярозкі паставілі каля хатаў. Дзяўчаты сплялі вянкі з зелені і кветок, прыбралі сваю царкву. Царкоўны хор з вясковай і вучнёўскай моладзі прыгожа і натхнёна пяяў усяночную і абедню.

Міколка першы салісты царкоўнага хору — чараваў па берагі выпаўнены храм сваімі сьпевамі. „Егда Дух сніде Сьвятый во огненых языцех"... „Глаголет бо собраным ученіком Хрыстовым"... пяе Міколка пры ўрачыстай цішы ўсей масы народу. Ніхто не варухнецца. Усе забыліся пра свае будзённыя справы. Усіх чараваў прыгожы сьпеў царкоўнай песьні, злучыў і захапіў сьвятым парывам да Бога

Выйшаў бацюшка, а Сьцяпан, каб яшчэ больш узмацаваць высокія настрої сваіх верных сьвятым словам пропаведзі. Ён гаварыў пра дары Духа Сьвятога для кожнага чалавека, пра вялікія міласьці і любоў Бога да людзей. Ён заклікаў моладзь ня губіць сваіх талентаў, а разьвіваць іх; ён заклікаў бацькоў памагаць сваім дзецям „умножыць" дадзеныя кожнаму ад Бога таленты.

Служба Божая скончылася.

У гэткі прыгожы, ясны, цёплы вечар ня было месца звычайным забавам на вёсцы. Уся моладзь высыпала на ніву. Зазьвінела песьня:

„Як пайшоў Мікола
У чыстае поле,
У чыстае поле
Жыта паглядаці:

— Радзі, Божа, жыта,
Жыта і пшаніцу,
І ўсяку ярыцу,
І ўсяку ярыцу".

Адна група моладзі скончыла на высокіх, звонкіх нотах. Песьня, як струна, празьвінела і збудзіла рэха ў суседнім лесе. Другая група хлапцоў і дзяўчат падхапіла працяжную ноту, што калыхалася над лесам і полем, і песьня зноў палілася:

„У полі снапамі,
У гумне стагамі,
У печы пірагамі.

Радзі, Божа, жыта,
Жыта і пшаніцу,
І ўсяку ярыцу".

Р. Шырма.

# ВЕРАБЕЙЧЫК

(казка).

Пайшоў верабейчык баранаваць, сеў на былінцы адпачываць.

— Былінка, былінка! Калышы мяне.

А былінка не калыша.

Пайшоў верабейчык па козы.

— Козы, козы! Ідзеце былінку ежце, бо былінка мяне не калыша.



Козы ня хочуцьісьці былінку есьці.

Пайшоў верабейчык па ваўке.

— Ваўке, ваўке! Ідзеце козы ежце, бо козы ня хочуць былінкі есьці, а былінка мяне не калыша.

Ваўке ня хочуцьісьці козаў есьці.

Пайшоў верабейчык па стральцэ.

— Стральцэ, стральцэ! Ідзеце ваўкоў біці, а ваўке козы есьці, а козы былінку есьці, бо былінка мяне не калыша.

Стральцы не пайшлі ваўкоў біці.

Верабейчык пайшоў да вяровак.

— Вераўке, вераўке! Ідзеце стральцоў вязаці, бо яны ня хочуць ваўкоў біці. а ваўке козаў есьці, а козы былінкі есьці, а былінка мяне не калыша.

Вяроўкі не пайшлі стральцоў вязаці.

Пайшоў верабейчык да агню.

— Агонь, агонь! Ідзі вяроўкі паліць, бо вяроўкі ня хочуць стральцоў вязаці, стральцы ня хочуць ваўкоў біці, ваўке ня хочуць козаў есьці, а козы былінкі есьці, а былінка мяне не калыша.

Агонь не пайшоў вяроўкі паліць.

Пайшоў верабейчык да вады.

— Вада, вада! Ідзі агонь тушыць, бо ён ня хоча вяроўкі паліць, а вяроўкі стральцоў вязаць, а стральцы ваўкоў біць, а ваўке козаў есьці, а козы былінку есьці, а былінка мяне не калыша.

Вада не пайшла агонь тушыць.

Пайшоў верабейчык да вала.

— Волік, волік! Ідзі воду выпі, бо вада ня хоча агню тушыць, агонь вяроўкі паліць, а вяроўкі стральцоў вязаць,

а стральцы ваўкоў біць, а ваўке козаў есьці, а козы былінку есьці, а былінка мяне не калыша.

Волік пайшоў воду піць, а вада агонь тушыць, а агонь вяроўкі паліць, а вяроўкі пайшлі стральцоў вязаць, а стральцэ пайшлі ваўкоў біць, а ваўке пайшлі козы есьці, а козы пайшлі былінку есьці.

Верабейчык сеў на былінку і калышацца.

І кожын раз яна калыша верабейчыка, як той сядзе на яе.

Запісана ў Лідчыне. 1937 г.

## ДАЎНО ГЭТА БЫЛО.

(Уступ да казак).

Даўно гэта было...
Каб дайсьці да тых дзён,
адцьвілі-б, пасівелі-б гады;
шмат-бы лапцяў стаптаў
і знасіў-бы найменш
мо' са дзьве ці са тры барады...
Ёсьць куток на зямлі,
дзе крыніцы пяюць,
з трысьнікамі гамоняць вазёры,
дзе на кожнай трапе
бачыш ты курганы
векавечным паросшыя борам.
Ёсьць куток на зямлі
казак, песьняў і мар
і праяў, неразгаданых сноў,
дзе і папараць наш
расьцьвітае — гарыць
у купальскую дзіўную ноч.
Ёсьць куток на зямлі, -
дзень адзін пражывёш —
ён на векі цябе зачаруе.
І дзе-б ты ні хадзіў,
кім бы посьле ні быў,
сум-тугу за тым краем пачуеш.
Даўно гэта было,
але што знача нам
пералезьці праз горы — гады!
Толькі трэба усім,
хто паслухаць прыйшоў,
быць адважным і быць маладым.

20—IV. 1937 г. **Максім Танк.**

## У ПОЛІ.

Мора сініх жытоў калыхалася,
Каласочкамі ў выш углядалася.
Мо' малілась яно Усявышнему,
Каб дазволіў дасьпець яму, пышнаму,
Бо ня раз яно бачыла сьлёзанькі
Паўгалодных дзяцей ля бярозанькі,
Як чакалі яны свайго татачку,
Мо' вязе хлеб з кірмашу у хатачку.
Дзеткі плачуць, у даль углядаюцца,
Ужо суседзі з кірмашу вяртаюцца...
Мора сініх жытоў калыхалася,
На галодных дзяцей углядалася...

М.

## ДАГЛЯДАЙЦЕ, ДЗЕТКІ, КВЕТКІ!

Дзеткі! Сонца сьвеціць цёпла,
у вакно глядзіць вясна.
Ціхі вецер ў полі вее,
зеляніцца ярына...
Спаласкаў ўжо дождж зямельку...
Татка йдзе ральлю гараць.
А ты мусіш перад хатай
агародчык даглядаць.
Ускапай яго прыгожа,
зрабі градкі і засей.
Зацьвітуць улетку гожа
незабудкі і мацей.

Раса.

## ВЯСНОЮ Ў НАШЫМ САДЗЕ.

Прырода ніколі ня бывае гэткай прыгожай і прыцягальнай, як вясною, і ніколі не адсланяе перад намі столькі таямнічай сілы, як гэтай парой.

І наш сад выглядае цяпер урачыста і прыгожа: дрэвы стаяць акрытыя ня толькі сьветлымі й далікатнымі лісткамі, але й кветкамі.

Некаторыя, як вішня, ўжо нават адцьвілі і сьнежна-белыя пялюсткі ўжо апалі. Заместа іх засталіся толькі на маленькіх

як-бы ножках зялёныя kyльkl, y будучынl — сачыстыя ягады.

Найсьвятлей выглядаюць яблыны l грушы: цэлы сад ад lх белы l разьясьнены, а лісты ледзь вызlраюць памlж распусьцlўшымlся кветкамl.

Ужо здалёк чуваць, як снуюць l гудуць каля дрэваў розныя кузуркl, l перш за ўсё зьвяртаюць на сябе ўвагу пчолы, якlя вельмl часта адведваюць нашыя сады гэтай парой.

Кожную мlнуту можна пабачыць, як пчолка сядае на кветку, усаджвае ў сярэдзіну яе сваю галоўку, а праз нейкl час адлятае.



Яе вабlць белы колер l пахнючы салодкl сок кветак, выдзелены з дробненькlх залозаў, которыя знаходзяцца ўнlзе пялюсткаў l называюцца мёднlкамl. Сок гэты пчала перарабляе потым у сваlм жалудачку на мёд, дзеля чаго, напlўшыся яго да сыта, ляцlць да вульля, каб там злажыць яго ў соты.

Кветкl аднак ня толькl ня губляюць на гэтым нlчога, але яшчэ маюць карысьць, бо пчала, шукаючы соку ў глыбl кветкl, дакранаецца галоўкай l лапкамl пакрытых жоўтым пылком слычыкаў l выносlць яго з сабой. А потым, калl сядзе на другую кветку, пакlдае там гэты пылок, l такlм чынам наступае запыленьне, без каторага ня можа вытварыцца насеньне, анl плод.

З гэтага мы бачым сужыцьцё пчолаў з кветкамl, узаемнае памаганьне ў жыцьцl.

Пчала атрымлlвае ад кветкl мёд, а за гэта памагае ёй вытварыць насеньне l плод.

l чалавек мае таксама вялlкую карысьць, бо забlрае l мёд l плады. Т.

## ЧАМУ САМАЛЁТ ЛЁТАЕ.

Напэўна, кожны з чытачоў бачыў самалёт, прынамсl на малюнку. Якlм-жа спосабам цяжкl самалёт можа падняцца высака над зямлёй l трымацца ў паветры? Як людзl дайшлl да таго, што пачалl лётаць у паветры, быццам птушкl?

Аддаўна ўжо чалавек зайздросьцlў птушцы: яму таксама хацелася ўзьбlцца па-над зямлю l шыбаваць у паветры. Таму l першыя самалёты рабlлlся наўзор птушкl. Але „самалёты“

гэтыя не хацелі лётаць: чалавек замала меў сілы, каб падняць сябе ў паветра разам з цяжкімі крыльлямі.

Прыйшлі, аднак, часы, калі людзі навучыліся прымушаць працаваць за сябе машыну. Машыну, якая нешта прыводзіць у рух, нешта рухае без чалавечае помачы, называем мотарам. Адсюль кола вадзянога млына, якое круціць жорны, называем вадзяным мотарам; машыну, якая рухае паравоз, называем паравым мотарам — і гэтак далей.

Вадзяныя мотары былі ведамы ўжо вельмі даўно, але-ж нельга было паставіць на самалёт вадзяны млын, разам са стаўком ці рэчкай!

Калі людзі выдумалі паравыя мотары, дык спрабавалі выкарыстаць іх сілу, каб падняцца ў паветра. Магутныя машыны махалі вялікімі моцнымі крыльлямі і ... нават не адрываліся ад зямлі. Аднак, першыя няўдалыя досьледы з паравымі машынамі на самалётах не прапалі дарма. Людзі пераканаліся, што цалком пераняць ад птушкі спосаб лёту, якая ляціць махаючы крыльлямі, ня варта. Каб падняцца пры помачы толькі маханьня крыльлямі, трэба вялікай сілы, а тым часам паравы мотар вельмі цяжкі: усяе яго сілы ня стала-б на тое, каб падняць сябе самога, а тут даходзіў яшчэ цяжар самалёту з вялікімі, вельмі моцнымі, а значыць і цяжкімі крыльлямі. Трэба было шукаць іншых спосабаў.

Кожын з дзяцей, напэўна, умее рабіць „галубы" з паперы. Калі такога „галуба" кінуць уперад, то ён можа даволі доўга ляцець, часам нават падняцца троху ўверх. Папяровы „голуб" трымаецца ў паветры толькі датуль, пакуль ён з нейкай шыбкасьцю ляціць уперад. Як толькі шыбкасьць зьмяншаецца, „галуб" пачынае ападаць; пакуль шыбкасьць даволі вялікая, „галуб" можа яшчэ паднімацца ўверх.

Таксама і „зьмейка" ці „лятак" трымаецца ў паветры толькі тады, калі дзьме вецер, або мы моцна цягнем за шнурок. Ані „голуб", ані „зьмейка" не махаюць крыльлямі, каб утрымацца ўгары; яны толькі патрабуюць, каб нешта цягнула іх наперад. „Зьмейку" цягне наперад шнурок, „галуба" — сіла, з якой мы яго кінулі. Самалёт, які не махае крыльлямі, павінна цягнуць наперад машына. Разважаючы гэтак, пачалі людзі будаваць самалёты з нярухомымі крыльлямі, наўзор папяровага „галуба" ці „летака". На збудованы такім спосабам самалёт ставіўся паравы мотар, які шыбка круціў пропэльлер, гэта знача малы адрэзак шырокага вінта. Пропэльлер, укручваючыся ў паветра, павінен быў шыбка цягнуць за сабой самалёт.

Некаторыя з гэтак збудаваных самалётаў адрываліся на

момант ад зямлі, але толькі на адзін момант. Аказалася, што паравы мотар настолькі цяжкі, што ня можа сам сябе падняць.

Пакуль ня было моцнага і лёгкага мотару, самалёты лётаць не маглі. Усе спробы палепшыць і зрабіць больш лёгкім паравы мотар скончыліся няўдачай. Але вось зьявіліся першыя бэнзынныя мотары (так званыя мотары „ўнутранага спальваньня", такія, якія маем цяпер, напрыклад, на самаходах).

Бэнзынны мотар вельмі прыдаўся да самалётаў, бо быў сільны і лёгкі. Да таго-ж запас бэнзыну лягчэй і выгадней узяць на самалёт, як, напрыклад, запас вугля да паравога мотару.

Пастаўлены на самалёт бэнзынны мотар лёгка паднімае ў паветра ня толькі сябе самога, але і значныя цяжары. Самалёты шыбка перавозяць людзей і пошту з аднаго канца зямлі ў другі, нясуць помач людзям падчас паводак, эпідэміяў, хваробаў пошасных і іншых няшчасьцяў, ратуюць заблуканыя ў акіянах караблі, знаходзяць падарожных, якія загінулі ў бязьмежных пустынях Азіі і Афрыкі. Шмат карысьці прынёс людзям самалёт, напэўна прынясе яшчэ больш.

Але не дарма далася людзям улада над паветрам. Тысячы адважных лятуноў згінулі падчас палёту, каб рэшта людзей на іх памылках навучылася лётаць. Бо першых лятуноў ніхто ня вучыў ні лётаць, ні будаваць самалёты: да ўсяго мусілі яны самі дайсьці, часам плацячы за навуку сваім жыцьцём.

Аб найслаўнейшых лятунох і вучоных, якія найбольш спрычыніліся да перамогі чалавека над паветрам, пагаворым іншым разам.

## НОЧКАЙ.



Ночка цёмная зьвісла над стрэхамі,
прытаілася ціха трава,
толькі часам і плачам і сьмехамі
заліваецца ў лесе сава.

Пакаціліся зоры крыштальныя,
месяц недзе на захадзе стлеў,
з-пад пахілай страхі саламянае
рвецца ціха на вуліцу сьпеў.

Люлі, люлі, сынок... ночка сіняя...
люлі, люлі, сынок... а-а-а...
Зноў сарвалася зорка, скацілася,
зноў заплакала ў лесе сава...

Нехта конна прамчаўся па вуліцы,
зашаптала штосьць сонна трава...
Цішыня пад страхою зноў туліцца...
люлі, люлі, сынок .. а-а-а...

**Ніна Тарас.**

## МАТЫЛЬ І ДЗІЦЯ.

Дзень залаты
цёплым сонцам заліты.
Лётаў матыль
сінякрылы над жытам.
Лётаў, як сон,
над калосьсямі нізка,
Як перазвон
над малою калыскай.
Сльёзы мігцяць
ад тугі і бязсільля:
хоча дзіця —
матыліныя крыльля.
Маці—жняя
пацяшае малога:
доля твая
яшчэ сьпіць на дарогах.
Я вось дажну
паласу, сіраціна,
і раскажу
пра палёт матыліны...
Будзеш і ты,
сыну, лётаць высока...
Дай, зараблю
я на хлеб табе, сокал...
19 IV. 1937 г.

**Максім Танк.**

## ГУЛЬНЯ Ў АВЕЧАЧКУ.

Дзеці выбіраюць пастуха, ваўка і бабулю. Рэшта дзяцей дзеліцца на авечкі і сабакі. Пастух ставіць авечкі ў купу і, ходзячы навакол з пугаю, пяе:

„Пасу, пасу авечачку; воўк за гарою,
я за другою. Ваўка не баюся, бо абаранюся“.



Потым авечкі кладуцца спаць. Тады воўк ціханька выходзіць з-за кута, дзе ён быў схаваўшыся, хапае авечачку і заносіць да сябе. Пастух устае, ходзіць навакол авечак, пяе, як і раней, і зноў кладзецца спаць. Воўк зноў хапае другую авечку, і гэтак датуль, пакуль не перацягае ўсіх.

Тады пастух ідзе шукаць і пытаецца ў бабулі, ці ня бачыла яна авечак? — „А якія яны?“ — пытае бабулька. Калі пастух скажа „белыя“, дык бабуля адказвае, што яны пабеглі беленькаю дарожкаю; калі „чорныя“, дык — чорненькаю дарожкаю.

Пастух ідзе далей і спатыкаецца з ваўком: „Гэта ты пакраў мае авечкі?“ — крычыць пастух і, вярнуўшыся назад, пачынае штосьць рабіць, быццам грэць лазьню, і кажа ваўку: „Воўча, воўча! хадзі ў лазьню!“ — „А якія дровы?“ пытаецца воўк. Калі пастух скажа: „бярозавыя“, то воўк згаджаецца йсьці, а калі якія іншыя, дык адказвае: „горкі дым“, і ня йдзе.

Як толькі пастух скажа: „бярозавыя“, воўк пытаецца далей: „а ці дома сабакі?“ — Пастух адказвае: „я іх пад печ загнаў, кусок хлеба даў і ступой закаціў.“ Воўк ідзе, а пастух выпушчае сабак, і яны накідваюцца на ваўка.

Далей пачынаецца, як з пачатку.

**З „Лучынкі“.**

# АБІСЫНІЯ.

Нашыя знаёмыя школьнікі — „шкоднікі“ аб якіх мы гаварылі ў № I „Снапка“, сабраліся другі раз каля млына — чытаць кніжку пра Абісынію. Гэтую кніжку прывёз з Вільні Язэп Бычок.

Год назад Абісынію, якая дзьве тысячы гадоў была свабоднаю, ні ад каго не залежнаю дзяржаваю, заваявалі Італьянцы, лык аб ёй апошнім часам усе толькі і гаварылі і цяпер яшчэ гавораць.

— Абісынія ці Эфіопія, як яна інакш даўней называлася, — чытае Бычок, — ведамая была задоўга до Раства Хрыстовага. Абісынскія цары вядуць свой род ад Саламона, цара жыдоўскага. Абісынія прыняла хрысьціянства ў пятым веку па Р. Х. і ёсьць краіна праваслаўная, хаця там пашыраны і другія веравызнаньні.

Абісынія ляжыць у Афрыцы недалёка ад роўніка, у найгарачэйшай паласе зямлі, і ёсьць плоскаўзвышшам, краіна гарыстая, з вельмі няроўнаю паверхняю і разрэджаным паветрам. Яна паднімаецца высока над роўнем мора, на 2000-3000 мэтраў і вышэй.

— А Беларусь? — перабіў Грыцук.

— Беларусь, — адказаў Бычок, паднімаецца ў сярэднім на 200 мэтраў, у нізкіх мясцох на 110-130 м. над роўнем мора. Ад гэтага шмат чаго залежыць. Ось пабачыце далей.

— Дзякуючы таму, — прадаўжае Бычок, — што розныя часьці Абісыніі раскінуліся на рознай вышыні — адныя вышэй, другія ніжэй, у прыродзе Абісыніі шмат супярэчнасьцяў. Ёсьць высокія і дзікія — з вузкімі і глыбокімі цясьнінамі — горы, якія падходзяць да пояса вечнага лёду, дзе ўжо нішто не расьце, а ёсьць месцы роўныя (даліны), дзе вечная вясна, дзе на вялізарных прасторах раскінуліся найбагацейшыя плянтацыі (засеяныя палі) або раскошныя стэпы, пакрытыя травой, і зваротніковыя лясы. Ёсьць месцы, дзе падарожнікі гінуць ад холаду, а ёсьць месцы, дзе круглы Божы год горача, як у печы, — там толькі ўночы чалавек можа больш-менш свабодна дыхаць і рухацца. Ёсьць месцы, дзе зашмат выпадае дажджу, дзе ў некаторыя месяцы ён льле амаль бесперастанку, і льле сапраўды „як з вядра“, а ёсьць месцы, дзе дождж ідзе вельмі рэдка і нядоўга, чаму і вада тамака, як кажуць, „даражэйшая за піва“. Ёсьць месцы занадта вільготныя ці сырыя і таму вельмі небясьпечныя для здароўя чалавека, а ёсьць месцы з сухім і здаровым кліматам, як у нашай Беларусі. Ёсьць месцы,

дзе ўсё дзіка, бязьлюдна і першабытна і дзе чалавек складам свайго жыцьця мала чым адыйшоў ад жывёлы, а ёсьць месцы, густа заселеныя, дзе ўжо даўно і шырока цьвіце хаця і своеадменнае, але культурнае жыцьцё, якое робіць магчымым збліжэньне Абісыніі з культурнымі народамі нашае часьці сьвету — Эўропы.




— Праўда, што там ня так, як у Беларусі, — сказаў Сымон Дрозд, вучань пятага аддзелу школы. У нас няма ні такой гарачыні, ні залiўных дажджоў, ні высокіх лядніковых гораў, а побач глыбокіх далінаў... У нас прырода хоць і небагатая, але і не такая дзікая, і жыцьцё раўнейшае і спакайнейшае.

— Пэўна, там зямля вельмі ўраджайная, і чалавеку ня трэба столькі класьці працы і здароўя, — сказаў Грыцук.

— А ці беларус мог-бы там вытрымаць? — на тых горах і ў тым пекле? — спытаўся Тамковіч.

— Наш мужык усюды і ўсё вытрымае, — заўважыў Мароз.

— Так то так, але там трэба мець здаровыя грудзі і сэрца. На такой вышыні ня ўсякі нават патрапіць хадзіць, — сказаў Бычок. —Самі абісынцы прывыкшыя, і якім-небудь арабам ці армянам з Азіі нічога, а вось італьянцы дый наагул эўрапэйцы адчуваюць сябе нядобра. Дзеля нездаровага клімату італьянцы будуць нават пераносіць сталіцу з цяперашняе Аддіс-Абэбы ў другое месца. Аддіс Абэба ляжыць на 2600 мэтраў над роўнем мора.

— У Абісыніі людзі павінны быць чорныя, як цыганы... то ж так пячэ сонца! — заўважыў Грыцук.

— Нэгры на паўдні зусім чорныя, абісынцы-ж, асабліва на поўначы, маюць скуру сьвятлейшую, як кава, — сказаў Дрозд.

— Чым не абісынцы нашыя хлапчукі, што цэлы дзень пякуцца на сонцы і палошчуцца ў рэчцы! Як запальваюцца за лета! — пасьмяяўся хтось з хлапцоў.

— Ну, хлопцы, будзем чытаць далей. Няма часу, — сказаў Бычок, і пачаў чытаць пра ўмовы жыцьця і прыроды ў Абісыніі.

(працяг будзе).

## НАЗІРАНЬНІ Ў ЧЭРВЕНІ.



1. Калі зацьвіла маліна? жыта? ліпа?
2. Калі і дзе зацьвілі васількі?
3. Якія краскі растуць у чэрвені на сенажаці? у лесе? у садзе?
4. Як залежыць рост збажыны і гародніны ад пагоды?
5. Ці даволі было дажджу гэтаю вясною?
6. Калі вывеліся маленькія вераб'і? ластаўкі? вароны?
7. Чым і як кормяць іх бацькі?

Абгаварэце ўсе гэтыя пытаньні з вашымі таварышамі. Чаго ня ведаеце, спытайцеся ў бацькоў ці ў старэйшых людзей.

## АСЬВЯЧЭНЬНЕ ПАЛЁЎ.

Пачалося прыгожае цёплае лета. Жыта закаласіла, зарунелі нават найпазьнейшыя яравыя пасевы — грэчка і лён. Сяляне часта адведваюць свае вузенькія загончыкі.

На трэці дзень Сёмухі вёска Рудаўка пастанавіла адправіць малебен, падзякаваць Богу за Яго міласьці, за ўраджай і з хрэсным ходам абыйсьці свае потам палітыя нівы.

Дзень выдаўся сонечны, ясны, цёплы. Зраньня сяляне пачалі зьбірацца каля храста ў пачатку вёскі. Ішлі апошнія падрыхтаваньні. Дзяўчаты і маладзіцы стаялі каля „паноснае“ іконы, упрыгожанае кветкамі.

Калі прыехаў бацюшка, каля храста была ўжо ўся вёска. Пачаўся малебен. Бацюшка маліўся за ўсіх жывых, каб Бог паслаў усім здароўе і дабрабыт, маліўся за ўраджай у полі, каб Бог захаваў ад граду і засухі, — маліўся за дабытак, каб убярог ад пошасьці і паморку, — маліўся за ўсю вёску, каб Бог захаваў ад пажару і ўсялякага няшчасьця.

Малебен скончыўся. Бацюшка даў знак, і хрэсны ход пайшоў праз усю вёску. Уперадзе нясьлі сьвяты хрэст, дзьве харугвы, за імі дзяўчаты нясьлі „паноснук“ ікону. Каля кожнае хаты стаялі сталы, пакрытыя настольнікамі. Бацюшка затрымліваўся, чытаў кароткую малітву за ўсю сям'ю і акрапляў сьвятою вадою хлеб і людзей гэтае хаты.

Выйшлі за ваколіцу. Уся вёска — старыя і малыя, мужчыны і жанчыны — ўсе йшлі за хрэсным ходам. Далёка па палёх гуло галоснае пяяньне малітваў царкоўных. Высока ў у небе ім уторылі жаваранкі.

Абыйшлі граніцы ўсіх палёў. На заломах граніцаў хрэсны ход затрымліваўся, бацюшка служыў кароткі малебен і акрапляў палі сьвятою вадою.

Калі праходзілі недалёка ад выгану, пастухі падагналі скаціну, і бацюшка акрапіў яе сьв. вадою.

Ужо пасьля палудня скончылася гэтая ўрачыстасьць. Праводзіўшы бацюшку, народ ціха разыходзіўся па сваіх хатах.

### Прыказкі.

Юр‘ева раса — ня трэба каню аўса. — Юры сказаў: жыта ўраджу, а Мікалай: пачакай, пагляджу. — Юры з цяплом, а Мікола з кормам.

---

Усякаму міла свая старана. — Чужая старана тугою гарана, сьлязьмі засявана.

## НА ПОЛІ ВЯСНОЙ.

Люблю я прывольле шырокіх палёў,
зялёнае мора буйных каласоў.
І грушы старыя, што ў жыце шумяць,
зялёныя межы, далёкую гладзь.

Люблю пазіраць я на поле вясной,
як ветрык жартліва плыве збажыной.
Калышыцца жыта, радамі бяжыць,
плыве бязустанку і ціха шуміць.

**Я. Колас.**

## УСЯЧЫНА.

**У Польшчы** з 1 траўня пачалі лётаць пасажырскія аэрапляны, якія будуць забіраць да 14 пасажыраў. Спачатку такія аэрапляны будуць лётаць напоўнач у Латвію (Рыга), Эстонію (Талін) і Фінляндыю (Гэльсінгфорс).

**Шыбкасьць аэрапляну.** У студні б. г. амэрыканец Хьюз праляцеў больш як 4000 кілямэтраў з шыбкасьцю 570 кілямэтраў на гадзіну. Ён будуе на свае грошы аэраплян, на якім думае дасягнуць шыбкасьці 800 клм. на гадзіну.

**Паштовы голуб** быў прывезены морам з Сайгону (горад у Інда-Кітаі) ў француські горад Арас. Галуба выпусьцілі на волю. Праз 24 дні голуб вярнуўся ў сваю Сайгонскую галубятню, праляцеўшы 11.590 клм.

**Хлеб, які выпечаны больш, як 1000 гадоў назад**, знойдзены нядаўна падчас раскопак у Швэцыі. Навуковыя досьледы паказалі, што хлеб гэты быў выпечаны з гарохавае мукі, якую зьмяшалі з сасноваю лускаю.

**Малпачка**. У Варшаўскім садзе для зьвяроў гэтаю вясною нарадзілася малпачка. Матка цешылася і не адхадзіла ад свайго дзіцяці. Але радасьць яе была нядоўгая. Адна з малпаў — саміцаў адабрала ад маткі яе дзіцянё. Тая бараніла, колькі было сілы. Доўга сумавала матка па сваім дзіцяці.

**Найбольшы чалавек на сьвеце** — гэта амэрыканец Робэрт Вадлоў. Ён яшчэ ня мае 20 гадоў. Узрост яго — 2 мэтры 60 сантымэтраў. Вага—200 кгр. У хаце бацькоў галава Робэрта даходзіць да самае столі. Пожак яго мае тры мэтры даўжыні. Ён шмат есьць. На яго ўзрост нідзе ня купіш гатовае адзежы ці абутку. Розумам Робэрт зусім нармальны чалавек, дый разіўся ён ад нармальных бацькоў. Ён жыве з таго, што абкружаны карлікамі (людзі малага ўзросту) паказваецца ў цырку публіцы. За гэта яму плацяць добрыя грошы.

## ШТО ЧЫТАЦЬ ДЗЕЦЯМ?

(Працяг — гл. „Снапок“ № 1).

У Вільні праз беларускія кнігарні „НАДЗЕЯ“—вул. Вострабрамская № 1 і „ПАГОНЯ“ — вул. Завальная № 1 можна выпісваць наступныя кніжкі ў беларускай мове для дзяцей старшага веку:

1. Язэп Лёсік. Наша крыніца. Чытанка. Выд. ў Рызе. Ц. 1 зл. 50 гр.
2. Н. Плавільшчыкаў. Каз. — Апавяданьне старога гуся. Пераклад з рас.
3. Оранг-Збаўца. З прыроды... Цана 85 гр.
4. А. Раманоўскі. Зьвярыныя малечы. Цана 1 зл. 40 гр.
5. Робінзон Крузо. Цана 75 гр.
6. Леў Толстой. Для дзяцей (апавяданьні, казкі і др.). Цана 1 зл. 30 гр.
7. Марк Твэн. Прынц і жабрак. Цана 1 зл.
8. „Новая Зямля“ — Я. Коласа. Выданьне „Пагоні“, у аднэй кніжцы. Цана 1 зл. 75 гр.
9. Тыграва аблога. Цана 65 гр.
10. Падводны сьвет. — Лункевіча. Цана 1 зл. 10 грош.

Хто выпісвае ня менш, як на 2 зл., той ня плаціць за перасылку, але тады грошы трэба выслаць наперад.

---

### НУ, І СЫНОК.

Або ты, тата, у лес за дровамі паедзеш, а я застануся дома, або я дома застануся, а ты за дровамі паедзеш.

### Прыказка.

Галаву выцягнеш — хвост завязьне, хвост выцягнеш — галава завязьне.

### Загадка.

1. Бегла ліска каля лесу блізка: ні сьцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі (сонечны прамень).
2. Прыйшоў госьць ды пад лаўку (ногі).
3. Гарбаценькі камісар усё поле папісаў (серп).

### Паштовая скрынка.

Ю. ШУПЕНЬКА. Верш паправіўшы надрукуем у № 3. Кульгае тэхніка і мова.

Я. БРЫЛЬ. Адзін верш надрукуем. Пішэце яшчэ. Збірайце народныя казкі і інш. Падпішэцеся на „СНАПОК“. Толькі № 1 высылаўся дарма, а больш ня будзе.

### Папраўка.

У № 1 „Снапка“ на 5-й страницы, 4-ы радок унізе замест „14/27 красавіка, трэба чытаць „14 красавіка“.

**Прачытаўшы дай „СНАПОК“ каму другому пачытаць.**

## Праваслаўныя сьвяты ў месяцы чэрвені.

| Новы стыль Чэрвень | Стары стыль Травень | Дні тыдня | Сьвяты |
|---|---|---|---|
| 3 | 21 | чацьвер | Сьв. роўнаапостальных цароў Канстанціна і Алены. |
| 5 | 23 | субота | Сьв. Афрасіні Полацкай, Асьветніцы Беларусі. |
| 6 | 24 | нядзеля | Нядзеля аб сьляпым. |
| 10 | 28 | чацьвер | УШЭСЬЦЕ ГАСПОДНЯЕ. |
| 13 | 31 | нядзеля | Сьвятых Айцоў I-га Усясьветнага Сабору. |
| | чэрвень | | |
| 19 | 6 | субота | Радзіцельская субота (памінаньне памерлых). |
| 20 | 7 | нядзеля | ДЗЕНЬ СЬВЯТОЙ ТРОЙЦЫ. Сёмуха. |
| 21 | 8 | панядзелак | ДЗЕНЬ СЬВЯТОГА ДУХА. |
| 27 | 14 | нядзеля | Усіх сьвятых. Загавіны на Пятроў пост. |
| 28 | 15 | панядзелак | Пачатак Пятровага посту (Пятроўкі). |



Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.